DISTRICTUS

# ПАВЕТ

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 5 (30) ТРАВЕНЬ 2004 г.



Помнік на магіле ахвяр Браслаўскага гета




Помнік ахвяры фашызма на яўрэйскіх могілках



Надмагілле ксяндза М.Акрэйца, які загінуў у дні знішчэння насельніцтва Браслаўскага гета



Помнік ахвярам фашызму у Леснічоўцы

**9 мая – дзень Перамогі над фашызмам. У гэты дзень ля помніка на брацкай магіле воінаў-вызваліцеляў адбываюцца святочныя ўрачыстасці. Людна тут і ў дні вызвалення Беларусі і Браслава ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Але ёсць у Браславе і іншыя помнікі апошняй вайны. Не скажаш, што яны занядбаныя, а вось што паўзабыты большасцю з нас – гэта дакладна. На алтар Перамогі ўскладзена мноства ахвяр і кожны з іх заклікае да Памяці.**

# ВЕСТКІ

Сябры Клуба аматараў жывой археалогіі прынялі ўдзел у сёмым рыцарскім турніры, які адбыўся 1-3 мая ў польскім горадзе Ілжа. Браслаўцы дэманстравалі старадаўняе разьбярства, ганчарства і пісьменства.

У фестывалі ўдзельнічалі калектывы з Польшчы, Украіны, Расіі, Беларусі. Беларусь, акрамя браслаўскіх майстроў, прадстаўляў знакаміты музычны гурт "Стары Ольса".



9 мая адбыўся традыцыйны мітынг ля брацкай магілы воінаў і партызан у Браславе. У гонар 59-й гадавіны Перамогі ў ім бралі ўдзел ветэраны, прадстаўнікі ўладаў, працоўных калектываў, салдаты-памежнікі. Нешматлікай выглядала калона ветэранаў. Былыя салдаты, якіх з кожным годам становіцца ўсё менш ускладі дла помніка вянкі і кветкі.





На агульнанацыянальным конкурсе вучнёўскіх выданняў часопіс Браслаўскай гімназіі "Magister" прызнаны лепшым у адной з намінацый. 5 мая у дзень друку калектыў выдання прыняў удзел у падсумаванні вынікаў конкурсу ў Мінску. Юныя журналісты атрымалі ў падарунак фотаапарат.



Прайшоў чарговы 37-ы фестываль "Браслаўскія зарніцы". Гэтым разам ён праходзіў пад дэвізам "Мы за здаровы лад жыцця". Арганізатары пастараліся, каб праграма спартыўных спаборніцтваў была разнастайнай і насычанай, як і культурная праграма. Сярод запрошаных гасцей на гэты раз выступалі дзяржаўны ансамбль танца Беларусі і знакамітая харавая капэла імя Рыгора Шырмы. Не сапсавала свята і надвор'е. Але чамусьці свята сабрала меней людзей, чым заўсёды.

Добры дзень, мілы мой горад Браслаў
з яго жыхарамі!
Усіх вас віншую з Днём Перамогі!

Я жадаю вам усім добрага здароўя, поспехаў у працы, дабрабыту ў вашых сем'ях...

Засталася ззаду Вялікая Айчынная вайна, але мы не забываем таго, што было падчас вайны ў нашым горадзе. Слава нашым воінам, якія абаранялі нас ад фашыстаў, аддаючы сваё жыццё. Пакаленне за пакаленнем павінны памятаць і шанаваць памяць нашых суайчыннікаў, якія пагеройску змагаліся ў баях за наш горад Браслаў.

Я дзякую ўсім, хто сягоння ледзьве стаіць, але стаіць ля падножжа помніка (гады бяруць сваё). Дай Бог вам доўгадоўга яшчэ жыць з намі і любавацца горадам — гэта вы выратавалі нас і наш горад Браслаў.

Горада нашага не пазнаць: маладзее з кожным годам, а маладзее таму, што ў ім жывуць цудоўныя людзі.



З павагай: В.Баладэ.Рыга.
2004 г.

# НОВАЯ ВЫСТАВА

18 мая ў міжнародны дзень музеяў у памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея адбылося адкрыццё новай выставы "З юбілейных дат 2004 года". Яе першымі наведвальнікамі сталі супрацоўнікі музейнага аб'яднання.

У экспазіцыі выставы адлюстраваны некалькі найбольш значных юбілейных дат Браслаўшчыны. Некалькі вітрын прысвечаны старонкам гісторыі мястэчка Іказнь. У гэтым годзе споўнілася 500 гадоў з часу заснавання Іказні. Дарэчы, гэта паселішча ўнікальнае ў тым сэнсе, што мы можам назваць не толькі год яго заснавання (што само па сабе рэдкасць), але і дакладную дату: 26 сакавіка 1504 года вялікі князь Аляксандр Ягелончык дазволіў Івану (Яну) Сапегу, канцлеру жонкі князя Алены, пабудаваць умацаваны замак і заснаваць горад над возерам Іказнь. Поўны тэкст граматы апублікаваны ў кнізе "Памяць". Іказнь мае цікавую гісторыю, звязаную са шматлікімі падзеямі і выдатнымі асобамі. Шкада, што жыхары былога мястэчка аказаліся абыякавымі да выдатнага юбілею.

Спаўняецца 210 гадоў з часу паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі. У экспазіцыі новыя матэрыялы пра Ю.Копаця, аднаго з відных дзеячаў паўстання, які пахаваны на Браслаўшчыне. У асноўным матэрыялы дасланы ў музей прамым нашчадкам генерала паўстанцаў Мечыславам Копацем з польскага горада Вроцлаў.

130-я гадавіна з дня нараджэння вядомага гісторыка-візантыста Уладзіслава Беняшэвіча, нараджэнца Друі, адзначана комплексам біяграфічных матэрыялаў, змешчаных у розных выданнях.

Некалькі стэндаў прысвечаны Мар'яну Пецюкевічу, вядомаму беларускаму этнографу, грамадскаму дзеячу. Спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння гэтага даследчыка, выхадца з вёскі Цяцеркі. Экспануецца шмат фотаздымкаў, выданні, прысвечаныя юбіляру, яго працы, лісты, дакументы.

У экспазіцыі выставы адзначаны яшчэ адзін юбілей: 100-годдзе з часу заснавання ў Браславе пажарнай дружыны. Паўстала яна ў 1904 годзе па ініцыятыве славутага Станіслава Нарбута. 5 чэрвеня дзень зацверджання статута дружыны быў для браслаўскіх пажарнікаў святочным днём. Аснову экспазіцыі склалі дакументы са справы дружыны, якія зберагаюцца ў Каўнаскім акруговым архіве.

Адна з самых значных юбілейных дат бягучага года — 60-годдзе вызвалення Беларусі і Браслаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гэтай даце будзе прысвечана асобная выстава, якая будзе арганізавана ў другой палове чэрвеня.

Кастусь Шыдлоўскі

*18 мая - Міжнародны дзень музеяў*

У міжнародны дзень музеяў хацелася б расказаць аб сувязях Браслаўскага музейнага аб'яднання з музеямі іншых краін.

Такія сувязі намеціліся ўжо з першых гадоў існавання гістарычна-краязнаўчага музея, але, трэба прызнаць, што яны не сталі трывалымі. Справа не ў адсутнасці зацікаўленасці ў стабільным супрацоўніцтве з замежнымі калегамі, такая зацікаўленасць узнікала неаднойчы, а ў тым, што для падтрымкі супрацоўніцтва патрэбны адпаведныя сродкі. Візіты прадстаўнікоў абодвух бакоў, супольныя праекты (напрыклад, выставы), нават звычайная перапіска каштуюць нятанна. Калі замежныя партнёры валодаюць адпаведнымі фінансамі, то гэтага не скажаш пра наш музей, бюджэт якога ўключае ўжо даўно толькі пазіцыі заклікання падтрымаць жыццяздольнасць установы.

Аднак, нягледзячы на неспрыяльныя фінансавыя ўмовы, музейнае аб'яднанне імкнецца падтрымліваць сувязь з замежнымі партнёрамі. Гісторыя такіх дачыненняў даволі багатая.

У бягучым годзе музейнае аб'яднанне ўдзельнічае ў падрыхтоўцы вялікай выставы, прысвечанай гісторыі Браслаўшчыны 20-30-х гадоў XX стагоддзя, якая запланавана ўвосені ў Этнаграфічным музеі польскага горада Гданьска. Дырэктарка гэтага музея Вікторыя Бляхарская – ураджэнка вёскі Замошша. Летам чакаецца яе прыезд на Браслаўшчыну, накіраваны на збор дадатковага матэрыялу для выставы.

Ураджэнец Браслаўшчыны Ежы Жураўскі з'яўляўся заснавальнікам і кіраўніком цэлага музейнага комплекса ў невялічкім гарадку Казімеж Дольны. Музеі комплекса атрымалі вядомасць на ўсю Польшчу. Да выхаду Е.Жураўскага на пенсію музей Браслава падтрымліваў цесную сувязь з польскімі калегамі.

Для бібліятэкі беларускага музея ў Гайнаўцы (Беласточчына, Польшча) музей перыядычна перадае літаратуру па гісторыі і культуры Браслаўшчыны. Супрацоўніцтва з гэтай установай будзе працягвацца. Добрыя адносіны склаліся ў музейшчыкаў з Браслава з кіраўніцтвам знакамітага археалагічнага заказніка ў Біскупіне (пад Познанню), у склад якога ўваходзіць некалькі музеяў. Браслаўцы ўжо некалькі гадоў удзельнічаюць у археалагічных фестывалях, якія праходзяць у Біскупіне. Можна назваць яшчэ з паўтузіна музеяў Польшчы, з якімі падтрымліваліся эпізадычныя сувязі.

Шмат кантактаў мелі музейшчыкі з Браслава з калегамі з Літвы, што вельмі заканамерна – нас аб'ядноўвае супольная гісторыя ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Падтрымліваюцца сувязі з калегамі мястэчка Кернава, дзе праводзяцца археалагічныя фестывалі, археалагічнага аддзела Нацыянальнага музея Літвы. У 80-х гадах падчас працы над экспазіцыяй гістарычна-краязнаўчага музея калегі з Нацыянальнага музея (у той час Гісторыка-этнаграфічнага музея Літоўскай ССР) аказалі даволі істотную дапамогу матэрыяламі. Падтрымліваліся кантакты з Музеем атэізма і рэлігіі, Каўнаскім музеем гісторыі медыцыны, Швянчонскім краязнаўчым музеем.

У значна меньшай ступені падтрымліваліся сувязі з калегамі з Латвіі і Расіі. Можна згадаць дапамогу калег з Даўгаўпілса пры стварэнні гістарычнай экспазіцыі. Браслаўскі музей прымаў удзел у канферэнцыях, арганізаваных музейшчыкамі Пскова з матэрыяламі, прысвечанымі археалагічнаму даследванню Браслаўшчыны. На апошняй канферэнцыі "Браслаўскія чытанні" у якасці госця прысутнічала намеснік дырэктара Пскоўскага музея-запаведніка Л.Грушына, якая сваё выступленне прысвяціла супрацоўніцтву беларускіх і расійскіх калег.

Абагульняючы досвед сувязей музейнага аб'яднання з замежнымі калегамі, можна адзначыць, што матэрыялы, назапашаныя ў Браславе, гістарычныя, этнаграфічныя калекцыі, выклікаюць зацікаўленасць за межамі нашай краіны. З другога боку, Браслаў у выніку супрацоўніцтва мае ўнікальную магчымасць папаўнення сваіх музейных збораў. Шкада толькі, што на шляху развіцця стабільных адносін са замежнымі калегамі знаходзяцца перашкоды, пераадолець якія ўласнымі сіламі музейныя спецыялісты Браслава не ў стане.

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Мечыслаў Копаць. *Вроцлаў*

# Уцехі з Бахусам

Алкагольныя напоі пілі ва ўсіх кутках нашай планеты з незапамятных часоў. Аб гэтым сведчаць пісьмовыя крыніцы. У краінах Міжземнамор'я, на Блізкім і Далёкім Усходзе пілі розныя гатункі він, балазе вінаграднікі ў тамтэйшых кліматычных умовах давалі багатыя ўраджаі. У нашай кліматычнай паласе паўнацэннае выспяванне вінаграду немажліва, таму тут ужывалі іншыя алкагольныя напоі.

Асноўным алкагольным напоем было піва, якое адыгрывала такую ролю, як сягоння кава ці гарабата. У піва даволі высокія спажыўчыя якасці, а пры ўжыванні ў значнай колькасці яно і добра хмяліла. Выраблялі піва шляхам ферментацыі з ячменю, часткова з пшаніцы, а часам і з аўса ў кожным фальварку. Існавалі таксама шматлікія гарадскія бровары. Апрача масава вырабляемага піва адзінарна прадукавалі ўзмоцненыя яго гатункі, так званыя гатункі дубельтовыя ці dwuraznyja. У большасці выпадкаў выраблялі слабы напой, які ўтрымліваў 2-3 % алкаголю, лепшы з утрыманнем каля 6 % алкаголю, а ў асобных выпадках 10 %. Панскія двары ўвесь час для сваіх патрэб і для гасцей варылі спецыяльнае, вельмі папулярнае так званае шляхецкае піва.

Да паловы XVII ст. адным з важных напояў быў пітны сытны мёд, пазней выцеснены гарэлкай і імпартным віном. У XVIII ст. яго піла толькі дробная і сярэдняя шляхта. Існавала шмат гатункаў мёду: ад наймацнейшых паўтаракоў (0,5 аб'ёму вады на літр патакі) да шастакоў. Прыпраўлялі напой зёлкамі ці карэннямі. Значным поспехам карыстаўся спецыяльны гатунак – ліпец. Спецыяльнымі мёдамі былі вішнеўскі, малінаўскі і кізілаўскі. Выраблялі напоі шляхам злучэння пітнога мёду, часам патакі з пладамі вішні, маліны ці кізіла або з засушанымі пладамі. Ад паловы XV ст. у Польшчу сталі прывозіць віно. Спачатку з прычыны вялікіх коштаў віны траплялі на сталы вялікіх паноў, пазней іх стала купляць і менш заможная шляхта. На рынку з'явіліся салодкія іспанскія віны – мальмазіі, цяжкія італьянскія і партугальскія – мадэры, рэйнскія – рыслінгі. У XVIII ст. распаўсюдзіліся французскія віны: белыя – бардо, шампань і бургунд, з поўдня прывозілі віны малдаўскія, аўстрыйскія, радзей грэчаскія, а найперш – венгерскія такаі. Тагачасныя віны мелі мацунак да 10 %. Даволі часта іх падраблялі з ужываннем шкодных рэчываў, а часам і атрутных.

У панскіх дварах гатавалі спецыяльныя гатункі

гарэлак, карыстаючыся хатнімі рэцэптамі ці рэкамендацыямі, змешчанымі ў розных календарах і даведніках. Розныя зерневыя настоі пераганялі, змешваючы з гарэлкамі ў спецыяльных перагонных кубах, атрымліваючы чыстую гарэлку, якая ў сваю чаргу пераганялася з рознымі зёлкамі, кветкамі, пладовымі косткамі і запраўлялася анісам, карыцай, апельсінавымі коркамі і г.д. Такім спосабам рыхтавалі дзесяткі гатункаў гарэлак з утрыманнем алкаголю 30-40 %. Самыя моцныя з іх аднак служылі не ў якасці напояў, а толькі "эсэнцый".

Гаспадыня хаты мела сваю "аптэчку", у якой стаялі бутлі з прывязанымі цэтлікамі, напоўненыя рознымі гарэлкамі: аернай, палыннай, селдэрэйнай, стаяў таксама чысты спірт, у якім вымачваліся змеі, упушчаныя ў сасуд жыўцом. Былі таксама спірты бусліныя, мурашыныя, адлаўцовыя – і ўсё гэта служыла для годнага прыёму гасцей (так пісаў Оскар Кольберг). Попытам карысталіся гданьскія гарэлкі, французскія каньякі. Іх аднак не ўжывалі як напоі, а часцей як аснову для вырабу іншых напояў. Чыстыя, без араматызатараў, гарэлкі лічыліся напоем ніжэйшага ўзроўню, для ніжэйшага саслоўя. Яны былі выключаны з меню афіцыйных банкетаў, лічылася непрыстойным падаваць такую гарэлку гасцям і выпіваць яе пад тосты.

У даўнія часы алкаголь лічыўся істотным элементам харчавання, часта выконваў ролю лекавага сродка, які мог дзейнічаць супраць некаторых хвароб, дапамагаў перапрацоўцы ў арганізме цяжкіх (тлустых і наперчаных) страў. Алкаголь ужываўся ў вядомых здаўна звычаях і абрадах. Памяркоўнае спажыванне розных напояў у ранейшыя часы нават рэкамендавалася, часам ухвалялася.

Алкаголь быў цесна звязаны з захаваннем таварыскай атмасферы. Часта шляхціч казаў: "*пачастуеш ласкавага спадара, праводзіш да стайні, вып'еш з ім..., наразмаўляешся, што заледзьве не плача пры развітанні...*"

Выдатна калісьці сказаў майстра Падарэўскі ў знакамітым дыялогу з французскім дзячам Клемансо. Калі "стары тыгр" штосьці буркнуў аб яго цудоўным выкананні, дадаўшы, што памылкова да гэтага меркаваў, што нібыта ўсе палякі ўмелі толькі піць, то пачуў ад славутага артыста ветлівыя словы падзякі і запэўніванні, што ён у сваю чаргу памылкова меркаваў, што ўсе французы добра выхаваны.

Даследванні крыніц паказваюць, што п'янства ў Польшчы, прынамсі сярод шляхты, увогуле не было такім распаўсюджаным і разбэшчаным, як да гэтае пары ўяўлялася з падачы некаторых аўтараў.

Банкеты ў шляхецкіх дамах найчасцей выглядалі наступным чынам. Пасля спажывання першага блюда пачыналася піццё напояў, спачатку маленькімі кілішкамі. Гаспадар дому ўздымаў ганаровыя тосты за здароўе ўсіх асоб, ад найбольш ганаровых да седзячых па канцах стала шарачкоў. У больш цесных колах пілі за здароўе суседзяў і прыяцеляў. Пасля заканчэння тостаў за здароўе прысутных наступаў пэўны перапынак у спажыванні напояў. Пасля падачы гарачага гаспадар браў вялікі келіх і, наліўшы яго да краёў, уздымаў тост за самага дарагога госця. Гаспадар рабіў гэта стоячы, падхоплівалася з месцаў і рэшта гасцей. Заледзьве садзіліся, як чарговы прамоўца ўздымаў келіх у гонар гаспадара, усе таксама ўздымаліся, і так цягнулася праз усе тосты.

Калі на банкеце знаходзілася шмат асобаў, то пасля уганаравання самых значных пілі за здароўе груп гасцей, напрыклад, падымалі кілішкі за: іх мосьцяў дам, іх мосьцяў духавенства, іх мосьцяў вайскоўцаў і г.д. У некаторых дамах за спінамі піруючых, ці нават пад сталамі размяшчалі хлопцаў і калі хто з гасцей маніпуліраваў пустым келіхам, гэтага стараўся не дапусціць стаячы ззаду наглядчык, і пад сталом пусты келіх немажліва было было схаваць. Канешне, такія выпадкі былі нечастымі. Тосты з'яўляліся свайго роду панегерыкамі (панегерык – хвалебная прамова) і выліваліся ў доўгія, расквечаныя эпітэтамі прамовы. Іх змест быў звязаны з асобай, палітычнымі падзеямі, зрэдку з прачытанай кніжкай. Быў таксама звычай, што кожны новы тост уздымаўся з новым келіхам і ў такім разе гаспадар павінен быў мець цэлую калекцыю посуду: кубкаў, шклянак, чаш і г.д. Гаспадыня дому таксама ўздымала тосты, аднак не выпівала пры гэтым келіха, а толькі датыкалася краю вуснамі і перадавала таму госцю, якога хацела ўганараваць.



Чужаземцаў у XVII ст. здзіўляў вельмі шырока распаўсюджаны звычай біць аб галовы падчас прыёмаў каштоўныя келіхі, за якія можна было б выставіць не адзін вайсковы аддзел. Ім не вядома было, што такім чынам давалі знак, што надалей гэтым посудам ніхто не варты карыстацца. Перад тостамі не пілі віна, якое перад тым пры прыёме страў лілося струменямі. Пілі піва ў вялікіх шклянках, у якія кідалі кавалкі хлеба, палітыя алеем.

Была вядома шляхецкая забава: глыток першы са шклянкі і дотык да правага вуса, глыток другі і дотык да левага вуча, глыток трэці і пальцам праводзіцца ад ілба да барады, удары аб стол зверху і знізу, потым тупанне нагой і бадзёры кліч: "Піва!", пасля чаго яшчэ дзьве шклянкі і тыя самыя шматлікія жэсты, а ў выпадку памылкі ў чымсьці – усё пачыналася спачатку. Да сталоў звычайна садзіліся ў галаўных уборах, здымалі іх у тых выпадках, калі гаспадар ці які дастойны госць здымалі капелюшы пры тостах ці пры ахалоджванні галавы. Перад кожным госцем стаяў буталь віна, які па меры неабходнасці напаўнаўся прыслугай. З гэтага буталя кожны наліваў віна для сябе ў перадаваемы па коле віватны кубак. Паненкі, калі прымалі ўдзел у пíры, то засядалі за асобным сталом, альбо асобным радком з аднаго боку стала.

Спажыванне напояў вельмі часта спалучалася з рознымі забавамі і спевамі. Біліся аб заклад, што вып'юць велізарныя келіхі, ужываліся келіхі без ножкі, якія не выпускаліся з рук, пілі з разнастайных куфлікаў, ражкоў, шкляных трубак, жаночых пантофлікаў і нават рыцарскіх ботаў. Песні спявалі кшталту: "*Гэй, Божа мой, каб мора ператварылася ў піва, а мы ў рыб, як жа мы там шыкоўна жылі, там бы і*

(заканчэнне на с.8)

# Мінулае і сучаснасць.

# Чаму Браслаўская вуліца?

На адной з канферэнцый “Браслаўскія чыт анні” наш госць з Каўнаса, дырэкт ар архіва, вялікі сябра музея Юозас Рымкус сказаў, шт о Каўнас напэўна адзіны замежны горад, дзе ёсць вуліца Браслаўская і гэт а назва нагадвае аб часах, калі абодва гарады ўваходзілі ў склад Ковенскай губерні. У гады савецкай улады вуліца чамусці была перайменавана і гіст арычная назва ёй вернут а ў пачат ку 1990- х гадоў. Большасці жыхарам Каўнаса ў гэт ы час ужо т рэба было раст лумачыць, шт о азначае назва ауліцы. Ю.Рымкус даслаў пераклад арт ыкула з гарадской газет ы. Прапануем яго ўвазе чыт ача, але перад т ым хацелася б прыгадаць наст упны выпадак.



**Коўна. Паштоўка пач.XX ст. з калекцыі Браслаўскага музейнага аб”яднання.**

2001 год, сакавік. Група т урыст аў лыжнікаў з Браслава прыпынілася на начлег на невялікай базе ў горным масіве Хібіны, шт о на Кольскім паўвост раве. Нашымі суседзямі аказаліся літ оўцы з Каўнаса. Найбольш сышліся з адным з іх — Альгірдасам. У час знаёмст ва Альгірдас пачуў назву Браслаў і рапт ам сказаў, шт о жыве ў Каўнасе побач з Браслаўскай вуліцай і на працу ездзіць з т ралейбуснага прыпынку “Браслаўскі”. Ён ніколі не задумваўся, шт о азначае гэт а назва. І вось т акая суст рэча за т ысячы кіламет раў ад родных мясцін. Ад гэт кай размовы яшчэ ўт ульней зрабілася ў хаціне, шт о прыт улілася ў даліне сярод заснежаных горных вяршынь.

*Чаму Браслаўская вуліца?*

*Гэтае пытанне ўзнікае ў жыхароў былой вуліцы Аўкштадварыо і не толькі ў іх. Кароткі адказ на пытанне прадстаўлены ніжэйшым дакументам.*

*Пратакол № 16 ад 16.01.1934 г.*

*Аб перайменаванні вуліц г.Каўнаса.*

*Прысутнічалі члены гарадскога савета А.Данілускас, К.Іокантас, бурмістр А.Меркіс, віцэ-бурмістр І.Пікчыменчыс, землямер І.Сэленекас і эксперт В.Бігюнас.*

*Пастанавілі:*

*У Верхніх Шанцах...*

*6. Назваць вуліцу № 13. Браслаўскай.*

*Гарвыканкам СДТ г.Каўнаса.*

* * *

*Пастанова № 638.*

*“Аб перайменаванні вуліц г.Каўнаса”.*

*Гарвыканкамам СДТ вырашана перайменаваць наступныя вуліцы:*

*алея Свабоды – праспект Сталіна;*

*пр.Дабраахвотнікаў – пр.Чырвонай Арміі;*

*пр.Вітаўтаса – пр.Леніна;*

*вул.Браслаўская – вул.Аўкштадварыо і г.д.*

*Абавязаць аддзел камунальнай гаспадаркі вырабіць і замяніць дошкі з назвамі вуліц да 25 студзеня.*

*Старшыня гарвыканкама г.Каўнаса*

*Б.Красаўскас*

*Сакратар гарвыканкама г.Каўнаса*

*М.Каняўскас.*

*Каўнас, 16.12.1946 г.*

Можна прачытаць кароткае павучанне пра нізкую свядомасць нашых суграмадзян, але аўтар перасследуе іншую мэту. Давайце разам даследуем другі дакумент, які сведчыць пра спробу “ідэалагічна ачысціць” і змяніць назвы вуліц г.Каўнаса. Не цяжка здагадацца, чым Сталін, Ленін, Чырвоная Армія, лепш за Свабоду, Вітаўтаса, Дабраахвотнікаў. Вуліца, названая ў гонар літоўскага разведчыка Баканаўскаса, які загінуў ад палякаў, замянілі Сувальнечка. Вуліцы, што носяць імёны Дабнявічуса, Кумніса, Раўба, змянілі іншыя героі авіяцыі: Чкалаў і Гастэла. Яшчэ больш пасляхова змянілі назвы вуліц Сімвестраса Гімжаўскаса і Марцінаса Седэравіўчаса (ксяндзоў, пісьменнікаў, кнігаsuccessfulношаў) – вул.Праўды (Тыесас) і вул.Кнігаsuccessfulношаў.

Поспех спадарожнічаў і перайменаванню вул.Прусаў (напэўна, лічылі, што гэта “від” немцаў). І вось праз 48 гадоў жыхары гэтай вуліцы ў незалежнай Літве раптам падтрымліваюць гэтае рашэнне гарвыканкама (ад 16 снедня 1946 г., 41 пункт пастановы № 638).

Паспрабуем высветліць, чаму вуліца, названая Браслаўскай, не прыйшлася даспадобы камісіі 48 гадоў таму?

Сярод насельніцтва Дрысвят, Опсы, Відзаў і Браслава сустракаюцца літоўцы, менш – на мяжы Друя-Ёды. Многія назвы населеных пунктаў балтыйскага паходжання. У канцы XVI стагоддзя прыходы Іказні і Новага Пагоста былі літоўскімі. Мяркуюць, што Браслаў носіць імя полацкага князя Брачыслава, які ў пачатку XI стагоддзя заснаваў тут крэпасць. Літоўскія князі Кернус і Гімбут спрабавалі ў 1065 годзе вярнуць гэтыя землі. Былі спробы ў 1216 г. і ў 1220 г. заваладаць Полацкам, і толькі ў 1245 годзе Браславам завалодаў сын князя Дауспрунга князь Таутвілас.

У 1307 годзе князь Віцяніс далучыў землі Браслава да Вялікага княства Літоўскага канчаткова. Прыблізна ў 1420 годзе ваявода Вільні Леанвідас па ўказу Вітаўта Вялікага пабудаваў тут касцёл і царкву. У 1435 годзе з ваколіц Браслава пачаў свой паход супраць Жыгімонта Кейстутыса князь Свідрыгайла. 8 кастрычніка 1500 г. Браславу было дадзена Магдэбургскае права вялікім князем літоўскім Аляксандрам, якім горад карыстаўся да 1795 года. Князь пакінуў горад сваёй жонцы Алене (дачцэ маскоўскага князя Івана III), якая памерла 24 студзеня 1513 г. У 1515 годзе руская армія дайшла да Браслава, спаліла Іказнь і Друю. У 1537 і ў 1550 гадах на горад былі здзейснены напады рускіх войск і крымскіх татар. Праз Браслаў прайшла армія Стэфана Баторыя, які спрабаваў далучыць Маскву да Літвы.

У XVI стагоддзі Браслаў належыў Сапегам, пазней – Масальскім, з 1592 г. – Тэадору Тышкевічу. У 1554 г. у горадзе было 5 вуліц, 110 жылых дамоў, 30 тракціраў (3 відаў – мядовых, піўных, гарэлачных). Насельніцтва горада: літоўцы, беларусы, яўрэі. Па інвентарнаму вопісу 1649 года ў замку Браслава было: нізкая і высокая сцены з 7 вежамі, вялікая вежа з варотамі і пад'ёмным мастом, 2 палацы, пякарня, канюшні, вязніца, кухня, склады і зброя (5 чугунных і 2 жалезныя гарматы, 240 снарадаў, 58 стральбаў, барабан, сцяг).

У ваколіцах Браслава было пабудавана 5 замкаў: у Браславе, Дрысвятах, Друі, Іказні, Вяце; дзве першыя належалі каралю, а астатнія – Сапегам. Лепш за ўсё ахоўваўся замак на востраве Друкшай ("Каралеўскі двор"), які ў 1413 годзе наведаў Гільберт дэ Ланнуа. У 1632 г. горад занялі рускія, у 1653 г. – казакі. У 1654 годзе ваколіцы Браслава пацярпелі ад наступаўшай на Вільню рускай арміі. У 1655 годзе шведы разбурылі Друкшайскі (Дрысвяцкі) замак. У 1661 годзе Браслаў рабавалі шведы, рускія, казакі. Усё XVIII стагоддзе край цярпеў ад войнаў і паўстанняў. Падчас паўстання Т.Касцюшкі (1794 г.) горад быў спалены рускай арміяй. Праз Браслаў прайшла армія Напалеона (корпусы маршалаў Нэя і Мюрата), а пры адступленні французы рабавалі і палілі ўсё, што яшчэ засталося.

Жыхары Браслава прынялі ўдзел у паўстанні 1830-1831 гг. і паўстанні 1863 г. Царскі ўрад пакараў паўстанцаў, канфіскаваў ўладанні, цэлыя вёскі былі сасланы ў Паволжа, а Браслаў засялілі рускімі пасяленцамі. У 1915-1918 гг. праз горад праходзіла лінія фронта паміж рускімі і немцамі: былі спалены Опса, Відзы, Дрысвяты (Друкшай).

Пераследуючы палякаў, 19 ліпеня 1920 года праз горад прайшоў расійскі кавалерыйскі корпус Г.Гая, а пазней горад занялі часці 9-га пяхотнага палка літоўскай арміі, пазней іх змянілі часці беларусаў. Была створана ваенная камендатура. Ваенныя імкнуліся ажывіць жыццё горада: устрайваліся вечарыны, ставіліся спектаклі, былі спробы разбудзіць у насельніцтва нацыянальную самасвядомасць. Мясцовыя дабраахвотнікі папоўнілі шэрагі літоўскай арміі. 17 кастрычніка 1920 г. часткі беларусаў выбылі ў Дукштас, адтуль – у Швянчоніс. 10 дзён горад ахоўвала пажарная каманда дабраахвотнікаў, пакуль горад не занялі палякі. Бурны і нешчаслівы лёс Браслаўскага павета. Знаходзячыся на мяжы Захада і Усхода, ён часта пераходзіў з рук у рукі. Стварыўся шматнацыянальны кангламерат, які не мог аднесці сябе да канкрэтнай нацыя-нальнасці ("каталікі", "тутэйшыя") і аказаць супраціўленне чужой нацыянальнай культуры. Сяляне цяжка працавалі ў сваіх бедных гаспадарках. У пошуках лепшага жыцця многія выязджалі на чужыну. Культура, асвета прыйшлі ў заняпад.

Браслаўскі павет – гэта адміністрацыйная адзінка Вялікага княства Літоўскага на поўначы ўсходняй Літвы. На поўначы ён мяжаваў з Ілуксцянскім паветам Курляндыі і Даўгавай, на поўдні і ўсходзе – з Дзісенскім, Пастаўскім і Свянцянскім паветамі. У XVIII стагоддзі Браслаўскі павет складаўся з 11 воласцей: Таўрагін, Салакскі, Зарасай, Смолвы, Друкшай (Дрысвяты), Відзы, Браслаў, Друя, Іказнь, Пагост, Мёры. Пасля другога падзела Рэчы Паспалітай (1793 г.) усходняя частка правета адышла Расіі, а астаўшаяся частка была далучана да Свянцянскага і Вілкамірскага паветаў. Пасля трэцяга падзела Рэчы Паспалітай (1795 г.) заходняя частка адышла да Віленскай губерні, а ўсходняя частка – да Мінскай губерні, да Дісенскага павета. Браслаў быў павятовым цэнтрам да 1808 года (з 11.05.1794 г. да 1808 г. пасля пажара часова Відзы), а ў 1808 годзе да пажара 24.08.1835 г. павятовы цэнтр быў перанесены ў Відзы, пазней па ўказу Мікалая I павятовы цэнтр быў перанесены ў Зарасай (Новааляксандраўск), які так называўся да 1915 года. Па маскоўскай дамове 12.07.1920 г. мяжа паміж Літвой і савецкай Расіяй праходзіла па цэнтру Браслаўскага павета, сам Браслаў адыйшоў да Літвы.

Калі пацікавімся гісторыяй Літвы, то ўбачым, колькі намаганняў было прыкладзена 74 гады таму пры ўстанаўленні этнаграфічнай, тым самым і дзяржаўнай мяжы, з савецкай Расіяй.

Сягоння, назіраючы за гераічнымі намаганнямі Эстоніі вярнуць свае законныя землі, што належалі ёй па Тартускаму дагавору, спытваем нязручнасць, называючы Браслаў замежжам.

***Вітаўтас Даўгеля***
Старшыня камісіі па ўвекавечванню памяці і перайменаванню назваў

# АРХЕАЛАГІЧНАЯ РАЗВЕДКА

У маі 2004 года аспірантам інстытута гісторыі НАН Беларусі Мікалаем Плавінскім сумесна з малодшым навуковым супрацоўнікам Сяргеем Дзярновічам праводзілася археалагічная разведка на тэрыторыі Браслаўскага і Мёрскага раёнаў Віцебскай вобласці. Мэтай разведкі быў пошук селішчаў апошняй чвэрці I тысячагоддзя н.э. Былі абследаваны ўчасткі берагоў азёр Богінскага і Дрывяты, але асноўная ўвага была сканцэнтравана на вывучэнні наваколля возера Укля. Вынікам разведкі стала адкрыццё двух раней невядомых селішчаў. Адно з іх было адкрыта на паўднёвым беразе воз. Укля. Мяркуючы па знойдзенай тут ляпной кераміцы (сустракаюцца фрагменты з гладкай, штрыхаванай і шурпатай паверхняй) яно можа быць папярэдне аднесена да першых стагоддзяў I тысячагоддзя н.э. Другое селішча выяўлена на ўсходнім беразе возера Дрывяты. Сабраныя тут фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі могуць быць аднесены да апошняй чвэрці I – рубяжа I–II тысячагоддзяў. Праведзеная разведка з'яўляецца пачаткам работ па вывучэнні сельскіх паселішчаў канца I – пачатку II тысячагоддзяў на Браслаўчыне. Аўтары хочуць шчыра падзякаваць супрацоўнікам Браслаўскага раённага аб'яднання краязнаўчых музеяў спадарам Валерыю Зінкевічу, Кастусю Шыдлоўскаму і Аляксандру Курбану за ўсебаковую шчырую дапамогу, без якой наша праца не сталася б такой плённай.

***Мікалай Плавінскі***

Напрыканцы траўня Браслаў наведалі дзьве ўнучкі легендарнага браслаўскага лекара Станіслава Нарбута: Яніна Гелерт з Варшавы і Марыя Заха з мужам Оле з дацкага горада Брондэрслеў. Арганізавала візіт Браслаўскае музейнае аб'яднанне. У калектыва музея даўнія сяброўскія сувязі са спадарыняй Янінай, якая нарадзілася ў 1922 годзе ў Браславе. Сваё трэцяе імя – Братыслава – яна атрымала па жаданню дзеда ў гонар Браслава. Яніна Гелерт добра памятае даваеннае мястэчка, некалькі разоў была тут у 1980-1990 гадах, у тым ліку ўдзельнічала ў навукова-краязнаўчых канферэнцыях "Браслаўскія чытанні". Дзякуючы Я.Гелерт, захавальніцы сямейнага архіва, музейныя зборы папоўніліся вялікай колькасцю матэрыялаў (у тым ліку арыгіналаў), якія звязаны з жыццём і дзейнасцю С.Нарбута, гісторыяй роду Нарбутаў. Спадарыня Яніна ўражвае энергіяй, няўрымслівасцю, зацікаўленасцю ўсім, што датычыцца Браслава. Уласна кажучы,



# Візіт нашчадкаў Станіслава Нарбута

яна і ініцыіравала паездку, хацела, каб сястра Марыя ўбачыла горад, які так любіў іх дзед.

Марыя Заха нарадзілася ў 1945 годзе ў польскім горадзе Чэнстахова, яна дачка малодшай дачкі С.Нарбута – Галіны. У маладым узросце М.Заха выехала ў Данію, дзе абзавялася сям'ёй. Яна і муж Оле – медыкі. Браслаў спадарыні Марыі ўяўляўся толькі па апавядах маці, уяўляўся рамантычным, светлым, казачным. Як пазней прызналася Марыя Заха, Браслаў не расчараваў.

Дарагіх гасцей прымаў "Заездны двор", размешчаны непадалёку ад старога дому Нарбутаў. Дапамогу ў прыездзе з Даўгаўпілса аказала Вольга Паўловіч. Цяпер яна жыве ў гэтым латвійскім горадзе, а ад бацькоў у родных Бяльмонтах неаднойчы чула аб С.Нарбуце.





Візіт пачаўся з наведвання магілы лекара на Замкавай гары, быў запалены зніч і ўскладзены кветкі. У касцёле падчас імшы святар згадаў лекара і яго сям'ю. Пасля набажэнства да нашчадкаў Нарбута падыходзілі некаторыя жыхары Браслава і запрашалі наведаць іх дамы. Гэта надзвычай узрушыла гасцей. Потым з такой пашанай да памяці знакамітага дзеда сустракаліся яшчэ неаднойчы.

Два дні побыту ў Браславе праляцелі як адно імгненне, насычаную праграму заледзьве паспявалі выконваць. Вось просты пералік: наведванне праваслаўнага храма, экскурсія па Замкавай гары, вандроўка па вуліцах гарадка, знаёмства з экспазіцыяй музеяў, паездка на гару Маяк, у наваколле Слабодкі – і гэта далёка не ўсё.

Можна вылучыць наведванне гістарычна-краязнаўчага музея, азнаямленне з пастаяннай экспазіцыяй, прысвечанай С.Нарбуту, выставай юбілейных дат, дзе знаходзяцца матэрыялы, прысвечаныя 100-годдзю пажарнай дружыны, заснаванай С.Нарбутам. Музей перадаў унучкам лекара публікацыі, прысвечаныя С.Нарбуту, падрыхтаваныя калектывам. Спадарыня Яніна падаравала музею цэлы комплекс архіўных матэрыялаў.

Экскурсію для гасцей у Музеі традыцыйнай культуры на выставе "Унісон" правёў яе аўтар мастак Уладзімір Кандрусевіч, які спецыяльна прыехаў з Мінска. Постаць С.Нарбута адлюстравана ў шэрагу карцін мастака. Апошняя яго праца "У грушавым садзе" паказвае С.Нарбута сем'яніна, бацьку трох дачок і сына.

Жаданне сустрэцца з унучкамі С.Нарбута выказалі раённыя ўлады. Час для сустрэчы знайшлі старшыня райвыканкама У.Лакомы, яго намесніца Н.Пучынская, старшыня райсавета дэпутатаў Р.Журня. Больш гадзіны доўжылася размова, падчас якой госці мелі магчымасць расказаць аб сабе, выказаць свае ўражанні ад наведвання Браслава. Было бачна, як яны былі ўсхваляваны сустрэчай з любімым горадам дзеда, той увагай, якую ім аказалі. Раённае начальства запрасіла гасцей наведваць Браслаў і надалей.

Не змаглі абмінуць нашчадкі С.Нарбута і наведванне былога комплекса лячэбніцы. Па галоўнаму корпусу, дзе будзе размешчаны праваслаўны манастыр, экскурсію правёў прараб будаўніцтва Фёдар Мажэйка, які хваляваўся не менш, чым


**Уладзімір Кандрусевіч.
У грушовым садзе**

госці. Прайшліся па ўсіх памяшканнях. Госці пачулі, дзе будуць размешчаны царква, прытулкі для манахінь і пілігрымаў, гаспадарчыя памяшканні, нават агледзелі вадзяны насос, які захаваўся з часу ўзвядзення лячэбніцы ў пачатку XX стагоддзя. Унучкі Нарбута адзначылі, што гэта глыбока сімвалічна, што будынак, дзе раней лячылі цела, будзе служыць надалей для лячэння духа. Станіслаў Нарбут шмат увагі надаваў не толькі лекаванню канкрэтных хваробаў, але і запальваў пацыентаў сваім аптымізмам і жыццялюбствам.

Была здзейснена паездка ў былы маёнтак Дзядзінка, адкуль родам жонка Станіслава Нарбута Людвіка. Цяпер гэта Мёрскі раён. Ад былога маёнтка засталіся руіны двухпавярховага палаца і рэшткі здзічэлага парка са стаўкамі. Пані Яніна памятае гэты куточак Мёршчыны зусім іншым. Але што зробіш, час змяняе ўсё.

Цяжка было спадарыні Яніне пазнаць і дом Нарбутаў, у якім сям'я жыла пасля смерці лекара. Змяніўся і падворак. Але памяць выхоплівала асобныя фрагменты ўспамінаў і тады нязначнае рабілася значным.

Заканчваўся візіт гасцей у Браслаў. Стаім на беразе возера Дрывяты. Шквалісты вецер, вада свінцова-бурая з баранчыкамі хваляў, што з шумам налятаў на бераг. "Не сярдуй на нас, даражэнькае, – нібы жывую істоту ўгаворвае спадарыня Яніна возера. – Мы ж прыйшлі павітацца з табой". Калі будзе наступная сустрэча? Бог ведае.

На наступны дзень госці ад'ехалі з Браслава. Наведалі Воранаўскі раён Гродзенскай вобласці, дзе знаходзілася родавае гняздо Нарбутаў. Пабывалі на магіле бацькі Станіслава – гісторыка Тэадора ў в.Нача, наведалі могілкі ля в.Шавуры, побач з якімі ўстаноўлены памятны знак Нарбутам. Экскурсаводам па тых мясцінах быў мясцовы краязнавец Уладзімір Руль, які марыць стварыць у Начы музей Нарбутаў.

З Ліды госці адпраўляюцца на Вільню. Цёплае развітанне і пажаданне – мы яшчэ павінны сустрэцца на браслаўскай зямлі.

# Уцехі з Бахусам

**(заканчэнне. Пачатак на с.3)**

спачылі". Альбо: "Кажы прынесці віна, мой Рыгорка мілы, Бог дай, каб клопаты не снілі. Давай жа, Анелька, сядай разам з намі. Сябра, сябра над сябрамі. Як толькі рука датыкаецца бутэлькі, адразу знікае сардэчны смутак. Хочам тады мы толькі звінець келіхамі. Сябра, сябра над сябрамі".

У XIX ст. пасля банкетаў, каб нейтралізаваць непажаданы водар ад спажывання алкаголю і ўвогуле прывесці сябе да нармальнага стану, ужывалася так званая "польская вустрыца". Гатавалася яна наступным чынам: у высокую шклянку па чарзе ўліваліся – тлустая кіслая смятана, два сырых жаўткі, дужы келішак алівы, сок з двух лімонаў. Выпівалася такая боўтанка адзіным залпам і загрызалася некалькімі зернямі падсмажанай кавы. Пах алкаголю знікаў.

Анджэй Кітовіч у "Апісанні звычаяў..." падае цікавы эпізод, які здарыўся з краўчым каронным Адамам Малахоўскім, вядомым у XVIII ст. выпівохам. Дык вось, прымушаў ён сваіх гасцей уліваць у сябе такую колькасць алкаголю, што пераважала гэта магчымасці звычайнага чалавека. Госць мог спрабаваць розныя спосабы зменшыць колькасць напояў, але ўсё дарэмна, мусіў піць да тае пары, пакуль захоўваў прытомнасць. Гаспадар меў вялізны, на палову гарнца келіх з надпісам "corda fidelium". Хто першы раз завітаў у госці да Малахоўскага, мусіў выпіць келіх за раз. Калі не рабіў гэтага, то ў келіх падлівалі напой адразу, а за спіной госця з пагрозлівым выглядам стаялі гайдукі. Аднак знайшоўся чалавек, які не толькі не даў сябе спаіць, але і перамог краўчага. Быў ім бернардзінец, зборшчык ахвяраванняў. Спачатку яго пачаставалі сняданнем, а потым падалі знакаміты келіх. Бернардзінец пад прымусам узяў келіх і пачаў хутка піць. Нібыта яму не хапала паветра, ён адарваўся ад келіха, на дне якога засталося трохі віна. Краўчы загадаў зноў даліць яго да краёў, бо манах не здолеў выпіць залпам. Небараку сілай усадзілі за стол, схапілі за пояс, каб не змог збегчы, і паставілі перад ім келіх. Другі раз манах піў спакайней, але зноў трохі не дапіў. Зноў віно напоўніла сасуд. Манах прасіў літасці, але нічога не дапамагло. Так дайшло да шасці келіхаў. Спачатку краўчы ад душы весяліўся, але пазней ўбачыў, што віно ўходзіць, а вынікаў няма: манах моцна трымаецца на нагах. Ён зразумеў, што з яго кпяць. Краўчы ўпаў у шаленства, закрычаў, што манахі спецыяльна да яго падаслалі такога небачанага піяку, каб выпіць у яго ўвесь вінны склеп. Пасля астыў і вырашыў паглядзець, што будзе рабіць бернардынец. Аказалася, што той спакойна, не ківаючыся, сеў на воз і ад'ехаў. Краўчы загадаў вярнуць бернардынца, абдарыў яго, але загадаў, каб болей у яго не з'яўляўся.

*Пераклаў з польскай мовы К.Шыдлоўскі*

**« ПАВЕТ »** **DISTRICTUS**
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)